№9 (153)
Травень 2004

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага цэнтру "Вясна"

## За роўныя правы

5 траўня ў Менску і шэрагу іншых гарадоў Беларусі інваліды-калясачнікі правялі пікеты ў знак пратэсту супраць парушэньня сваіх правоў. Акцыя была прымеркаваная да Міжнароднага дня салідарнасьці інвалідаў розных краінаў за роўныя правы, супраць дыскрымінацыі. Лідэры асацыяцыі інвалідаў-калясачнікаў, якія ладзілі пікеты, заявілі, што становішча інвалідаў у Беларусі штогод пагаршаецца. Больш за дваццаць чалавек у інвалідных вазках выстраіліся ўздоўж менскай плошчы Бангалор, каб нагадаць уладам аб праблемах інвалідаў — адсутнасьці належнага сацыяльнага, медычнага забесьпячэньня, магчымасьці працаўладкаваньня. У руках удзельнікі акцыі трымалі плакаты, на якіх было напісана: “Мы хочам працаваць”, “Улады і ЖЭСы глухія да нашых праблемаў, “Дзяржаўная сістэма супраць інвалідаў”.

## Ці будзе праведзенае незалежнае сьледзтва?

Парламенцкая асамблея Рады Еўропы заслухала даклад Хрыстаса Пургурыдэса і ўхваліла рэкамендацыі Камітэту міністраў наконт санкцыяў супраць Беларусі. Як паведаміла супрацоўніца сакратарыяту гэтага камітэту, вырашана, што беларускае пытаньне будзе разгледжанае на адным з бліжэйшых паседжаньняў Камітэту міністраў. Ухваленыя ПАРЕ рэзалюцыі і рэкамендацыі з патрабаваньнем адстаўкі генпракурора Беларусі Віктара Шэймана, правядзеньня незалежнага расьследаваньня справаў зьніклых і судовых працэсаў над датычнымі да гэтых зьнікненьняў беларускімі чыноўнікамі, накіраваныя ў выканаўчы орган Рады Еўропы.



Фота "ПнВ"

# Пяць гадоў памяці...

***7 траўня споўнілася пяць гадоў з моманту зьнікненьня былога міністра ўнутраных справаў Беларусі Юрыя Захаранкі. Лёс ягоны па-ранейшаму застаецца невядомым...***

7 траўня ўвечары на Кастрычніцкай плошчы ў Менску штогод зьбіраюцца неабыякавыя людзі, якія жадаюць ведаць праўду аб тым, што здарылася з вядомымі ў Беларусі дзеячамі апазіцыі. Роўна пяць гадоў таму зьнік генерал Юры Захаранка, былы міністр унутраных справаў Беларусі, вядомы грамадзкі дзеяч, сябра палітрады Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Літаральна некалькі сотняў метраў не дайшоў ён да свайго дому. З таго часу пра лёс Юрыя Захаранкі нічога невядома. Зьнікненьне Ю.Захаранкі стала першым у серыі загадкавых здарэньняў, што адбыліся ў Беларусі. У тым жа 1999 годзе, у верасьні, зьніклі выконваючы абавязкі старшыні Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Віктар Ганчар і яго сябра прадпрымальнік Анатоль Красоўскі, а ў ліпені 2000-га – аператар расейскай тэлекампаніі ОРТ Дзьмітрый Завадзкі. І гэтым разам ўвечары ў пятніцу 7 траўня на Кастрычніцкую плошчу ў Менску прыйшлі грамадзяне з плакатамі-партрэтамі Ю.Захаранкі і іншых зьніклых.

*(Працяг на стар. 7)*

*Калонка рэдактара*

# Паралельны сьвет

**Надыйшоў май. Зазелянелі лясы і палі. Нягледзячы на халоднае для гэтага часу надвор'е прыгарадныя менскія электрычкі запоўніліся дачнікамі. Пачынаецца традыцыйнае корпаньне ў зямлі, з якога беларусы вылезуць не раней за сярэдзіну кастрычніка — акурат пад выбары. На дзень Перамогі Лукашэнка прыляцеў на верталёце з Гомельшчыны ў ветэранскі шпіталь. Старыя бабулі-партызанкі шчыра дзякуюць яму за клопат. Прэзідэнт аж плыве ад радасьці, нібыта ён за грошы з уласнае кішэні падараваў ім гэты шпіталь. Сама-задаволена разважае пра тое, што ветэраны – гэта нашае багацьце, што іх трэба раз на год капітальна падрамантоўваць: пад рукі зацягваць у шпіталі і рабіць ім аперацыі, затым, схамянуўшыся, дадае: калі яны гэтага жадаюць… На Гомельшчыне трымае на руках прааперыраваных дзетак, што захварэлі пасьля аварыі ў Чарнобылі, на Магілёўшчыне цісьне спрацаваныя рукі хворым бабулькам. І ў той жа самы час абвяшчае новую палітыку гаспадараньня на забруджаных радыенуклідамі землях, заяўляючы, што на іх можна і трэба жыць, абяцае аднавіць тут сельскагаспадарчую вытворчасьць. І ў той жа самы час еўрапейскія дабрачынныя канвоі з лекамі і медыцынскім абсталяваньнем, па прычыне складаных умоваў афармленьня, ня могуць перасякчы беларускую мяжу і кіруюцца ў Славаччыну. А ў беларускіх больніцах не хапае аднаразовага начыньня для правядзеньня аперацыяў, няма чым карміць хворых…**

**Па беларускай тэлевізіі паказваюць злы рэпартаж з Кіева пра ўкраінскіх нацыяналістаў, якія не далі ветэрану вайны родам з Беларусі працягнуць службу ва ўкраінскіх унутраных войсках, бо, маўляў, патрабавалі веданьне ўкраінскай мовы, а ён, пражыўшы ўсё жыццё ва Украіне, ведае адно толькі беларускую, рускую і нямецкую… І ані слова пра літаральна паляваньне скінхэдаў ды іншых аматараў "чысьціні расы", што разгарнулася ў беларускіх гарадах у апошні час на чорнаскурых студэнтаў. Паказваюць прапагандысцкі фільм, зроблены ў гебельсаўскім стылі, пра беларускую апазіцыю, якая, маўляў, раскрадае заходнія грантавыя грошы, і – ані слова пра сакрэтны прэзідэнцкі бюджэт, у якім, па ацэнках незалежных аналітыкаў, сабрана некалькі сотняў мільёнаў даляраў, выціснутых з краіны ў абыход афіцыйнага бюджэту… Нахвальваюць посьпехі ураду ў эканоміцы і – маўчок пра трохтысячную першамайскую дэманстрацыю даведзеных да адчаю дробных прадпрымальнікаў у Гародні.**

**Камісія па правах чалавека ААН і Парламенцкая асамблея Рады Еўропы прымаюць за вясну дзьве дужа рэзкія рэзалюцыі па Беларусі, зьвязаныя з парушэньнем правоў у нашай краіне, пад якімі без ваганьняў падпісаўся б кожны беларускі праваабаронца. Пасьля такіх рэзалюцыяў усялякі больш менш прыстойны ўрад адразу пайшоў бы ў адстаўку, але ня наш. Наш яшчэ гатовы папрацаваць. Міністэрства замежных справаў выдае з сябе пакрыўджанага і адказвае ПАРЕ ў духу – сам дурны…**

**Краіна цудаў, дзе цякуюць малочныя рэкі ў кісельных берагах, равуць зубры, МАЗы і БелАЗы, над якой лётае на верталёце лысы і вусаты чалавек, то тут, то там нечакана апускаецца з неба ды, як прарок, прамаўляе сіплым голасам пропаведзі і раздае цуды; па сталіцы бегае туды-сюды на дэманстрацыі пачварная казачная апазіцыя і палохае добрасумленных грамадзянаў; па асфальце носяцца на ролерных лыжах здараненныя тэнісісты — ажно вецер сьвішча ў вушшу, а заможныя сяляне самааддана працуюць на ўрадлівых палетках, бязьмежна ўдзячныя за своечасова выплачаны заробак...**

**І гэта ўсё – Беларусь...**

**А. Б.**

# Кіравацца нормамі Закону і Канстытуцыі

***Заява ўдзельнікаў сустрэчы беларускіх журналістаў у сувязі з Сусьветным днём свабоды друку***

Беларусь засталася апошняй еўрапейскай дзяржавай, дзе практычна ўсталяваная манаполія дзяржавы на сродкі масавай інфармацыі. Год за годам беларускія ўлады ўзмацняюць прэсінг у дачыненьні да выданьняў дэмакратычнай скіраванасьці. Сёньня само існаваньне свабоднай прэсы пастаўленае пад пагрозу. Пра гэта сьведчаць вынікі маніторынгу СМІ, які праводзіць ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».

З пачатку гэтага году Міністэрства інфармацыі пяць разоў прыпыняла выхад недзяржаўных выданьняў. У гэтым сьпісе газеты «Згода», «Вечерний Столин» і нават такія далёкія ад палітыкі выданьні як «Криминальное обозрение», «Версия» и «Детективная газета».

Усё больш абвастраюцца праблемы, зьвязаныя з друкам і распаўсюдам незалежных газетаў. Некаторыя з іх зноў вымушаныя сыходзіць у «эміграцыю». «Белорусская деловая газета», «День» и «Салідарнасьць» друкуюцца ў Расіі. Дзяржаўныя прадпрыемствы-манапалісты «Белпошта», «Белсаюздрук» і іх рэгіянальныя структуры адмаўляюцца распаўсюджваць «Белорусскую деловую газету» і шэраг іншых выданьняў. Адначасова ствараюцца перашкоды дзеля арганізацыі альтэрнатыўнай сістэмы распаўсюду.

Пашыраецца практыка неабгрунтаванай канфіскацыі накладаў нязручных уладам СМІ. Асаблівую трывогу выклікае сітуацыя з газетай «День». 7 красавіка 2004 г. міліцыя Іўеўскага раёну Гарадзенскай вобласьці затрымала ўвесь наклад адзінаццатага нумару гэтай газеты, эксьпедыяваны з Расіі. Рэдакцыя падвяргаецца ціску з боку пракуратуры, КДБ і падатковых органаў.

Арсенал метадаў эканамічнага ціску на дэмакратычную прэсу ўвесь час абнаўляецца. Беларускае тэлеграфнае агенцтва (БелТА), заснаванае Адміністрацыяй прэзідэнта, спасылаючыся на сваё эксклюзіўнае права распаўсюджваць у СМІ праграмы тэлеперадачаў, запатрабавала ад некаторых выданьняў штомесячнай аплаты ў суме больш як 5 млн. рублёў (каля 2,5 тысячаў даляраў ЗША).

Працягваецца практыка прад'яўленьня шматмільённых зыскаў незалежным газетам. Менавіта сёньня найбольш масавая незалежная газета «Народная воля» вымушаная змагацца за свае інтарэсы ў двух судах.

Застаецца невядомым лёс нашага калегі, сябра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Дзьмітрыя Завадзкага, які зьнік у ліпені 2000 г. Пракуратура Рэспублікі Беларусь 31-га сакавіка 2004 г. зноў прыпыніла расьсьледаваньне крымінальнай справы аб яго выкраданьні.

28 красавіка 2004 г. Парламенцкая Асамблея Рады Еўропы прыняла дзьве сьпецыяльныя рэзалюцыі, у якіх асудзіла выпадкі зьнікненьня людзей, а таксама практыку дыскрымінацыі СМІ ў Беларусі. Удзельнікі сустрэчы далучаюцца да заяваў еўрапейскіх парламентарыяў.

У Дзень свабоды друку мы зьвяртаемся да беларускіх уладаў з патрабаваньнем кіравацца ў дачыненьнях з прэсай нормамі Канстытуцыі, дзейнага Закону аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі, а таксама агульнапрызнанымі нормамі міжнароднага права. Мы таксама патрабуем спыніць неабгрунтаваны перасьлед незалежных СМІ і журналістаў.

*г. Менск*

*3 траўня 2004 г.*

# Станіслаў ШУШКЕВІЧ: "Мы змагаемся за тое, каб займацца нармальнай палітыкай"

## Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Станіслаў Шушкевіч адказвае на пытаньні "Права на Волю"

***— Як сасьпела ідэя стварыць народную кааліцыю "Пяцёрка+"?***

— Быў Кангрэс дэмакратычных сілаў, затым была Рада апазіцыйных партыяў, у якую ўваходзіла 9, а пасьля 8 палітычных партыяў. Фактычна ўсе гэтыя мерапрыемствы вырашылі толькі адно, вельмі істотнае пытаньне. Яны дазволілі вызначыць хто ёсьць хто ў сёньняшняй Беларусі. У папярэднія каліцыі аб'ядноўваліся часам цалкам непараўнальныя суб'екты. Адны прадстаўлялі сур'ёзныя палітычныя сілы ці партыі, а ў іншых за плячыма нічога не было.

Другое — мы вырашылі аддзяліць палітычнае пытаньне ад усіх астатніх. Бо калі справа тычыцца палітыкі, за яе трэба несьці адказнасьць. Але ж у нас вельмі шмат тых, якія толькі выдаюць сябе за палітыкаў.

Мы пераканаліся ў тым, што ў тых палітычных структурах, якія аб'ядноўвае "Пяцёрка+" існуюць і дзейнічаюць прынцыпы дэмакратыі. Абраньне лідэра і кіраўнічых органаў адбываецца таемным галасаваньнем, у адпаведнасьці са статутамі, якія таксама распрацаваныя паводле дэмакратычных прынцыпаў. Усе партыі маюць дэмакратычныя намеры і жадаюць быць партыямі парламенцкага тыпу. Гэта стала падмуркам для аб'яднаньня ў адзіную Кааліцыю. Фактычна гэта адбылося значна раней, чым мы пачалі ўжываць назву "Пяцёрка+".

Ёсьць партыі ў Беларусі, якія выдаюць сябе за супердэмакратычныя, але, на маю думку, насамрэч там няма ніякай дэмакратыі. Ёсьць толькі непамерныя амбіцыі.

***— Вы кажаце пра тыя палітычныя сілы, якія не захацелі ўвайсьці ў кааліцыю "Пяцёрка+"?***

— Фактычна такіх структураў няма. Ёсьць адна партыя, у якой асабістыя амбіцыі лідэраў значна вышэй за ўсе праграмы. Працэс аб'яднаньня быў вельмі складаны. Якія праблемы ў старэйшых палітыкаў, тыя ж ёсьць і ў маладых. Дзе перамагалі прынцыпы — тая моладзь з намі. Такіх большасьць. А там, дзе перамаглі амбіцыі... Я асабіста вельмі добра стаўлюся да гэтых людзей, але яны не заўважаюць, што для іх самы галоўны прыярытэт — лічыцца лідэрамі і з часам яны ўжо ня вельмі ладзяць з тым, што яны заяўляюць. Тым ня менш, маладых кандыдатаў у нас у сьпісе вельмі шмат.

***— Падмурак дзеля рознагалосьсяў меў ідэалагічны характар ці розьніліся выключна падыходы да выбарчай кампаніі?***

— Мы пачалі сваю працу з таго, што сфармулявалі нашыя прынцыпы і пазіцыі. Мы доўга шукалі фармулёўкі, якія былі б прынятыя ўсімі. Калі ў кагосьці былі іншыя меркаваньні, мы былі адкрытыя да таго, каб улічыць іх. Мы б іх разгледзелі, і, магчыма, гэта палепшыла б нашыя ўзаемаадносіны. Але гэтага не здарылася. Было жаданьне ўдзельнічаць у вырашэньні палітычных пытаньняў. Нашая пазіцыя ў тым, каб тыя, хто прымае рашэньні, і адказвалі за гэтыя рашэньні. Сфармуляваць, за што мы змагаемся значна цяжэй, чым проста змагацца.

***— Вы асабіста як ставіцеся да таго, што ў народную кааліцыю "Пяцёрка+" уваходзяць і беларускія камуністы?***

— Я да гэтага стаўлюся вельмі добра. На гэта ёсьць дзьве прычыны. Першая – праграма Партыі камуністаў беларускай (ПКБ) сацыял-дэмакратычная. Другая – кіраўніцтву гэтай партыі можна цалкам давяраць. Я асабіста магу сказаць, што не было ніводнага выпадку, каб нейкая дамоўленасьць з Сяргеем Калякіным альбо з кімсьці з ягоных намесьнікаў была парушаная. Гэтая партыя хоча быць партыяй парламенцкага тыпу... Так, паміж намі ёсьць разыходжаньні, але яны ляжаць па-за тымі пазіцыямі, у межах якіх мы заключылі пагадненьне. У часы вайны ў кааліцыі СССР, ЗША і Вялікабрытаніі якая была платформа? Перамагчы фашызм. У нас тая ж самая задача.

Адназначна, што ў парламенце кожная партыя будзе змагацца за свае палітычныя мэты. Калі прыйдзе большасьць камуністаў, то ў іх будзе больш шанец дасягнуць свае мэты. Хто ўвойдзе ў кааліцыю ў парламенце, зараз цяжка сказаць. Відавочная і вырашальная іншая рэч. Падтрымка асобных партыяў – невялікая, а падтрымка кааліцыі паводле сацыялагічных апытаньняў увесь час расьце. Таму трэба ісьці тым шляхам, які дазваляе абаперціся на больш шырокую платформу.

***— Вынікі сацыялагічных апытаньняў паказваюць, што людзі проста кепска арыентуюцца ў палітычных партыях і ім бяз розьніцы, да якой з іх належыць кандыдат...***

— Калі нехта лічыць, што людзям усё роўна, за каго галасаваць, такому чалавеку ня трэба займацца палітыкай. Людзі могуць быць уведзеныя ў зман. Напрыклад, што трэба галасаваць толькі за тых, каго бачыш на тэлеэкране.



Станіслаў ШУШКЕВІЧ.

***— Што такое палітыка ў сёньняшняй Беларусі?***

— З пункту гледжаньня слоўнікавых азначэньняў – палітыка гэта дзейнасьць, накіраваная на набыцьцё ўлады. Дэмакратычная палітычная дзейнасьць разумее пад сабой набыцьцё ўлады шляхам агітацыі за тыя структуры, якія прапануюць праграмы паляпшэньня жыцьця для большасьці людзей. Адпаведна, шанец у той партыі, якая мае лепшую праграму, большы.

Мы фактычна займаемся не палітычнай дзейнасьцю. Мы арганізуем супраціў цемрашальству, якое пануе ў нашай дзяржаве. Калі б гэтая дзейнасьць была палітычнай, мы б паўнавартасна займаліся выбарамі, агітацыяй за нашыя праграмы, актыўна выступалі і друкаваліся ў масмедыя. Мы пазбаўленыя ўсяго гэтага. Мы ўсьведамляем, як трэба лячыць грамадзтва, а дзяржава робіць усё, каб нас не дапусьціць да яго, і лечыць яго, сур'ёзна хворае, сваімі паганымі "наркотыкамі". У гэтых умовах мы змагаемся за тое, каб займацца нармальнай палітычнай дзейнасьцю.

***— Што ў планах вашай партыі ў бліжэйшы час?***

— Лепш за ўсё на гэтую тэму не гаварыць. Столькі пагрозаў "вісіць" зараз над намі. Адна з іх – гэта тое, што ад нас патрабуюць зьмены юрыдычнага

*(Працяг на стар. 7)*

# Мікалай КАЛІНІН: "Напалову цыганом быць нельга"

***Вядома, што ў Беларусі жыве вялікая колькасьць розных народнасьцяў і этнічных групаў. Гэтая тэза абвяшчаецца і гучыць вельмі часта. Але ці задумваемся мы над яе сэнсам? Вялікія цыганскія абшчыны ёсьць і ў суседніх з Беларусьсю краінах: Летуве, Латвіі, Польшчы, Расіі і Украіне. Там спрабуюць вырашаць праблемы гэтай народнасьці на самым высокім узроўні.***

***Па словах майго суразмоўцы, прадстаўніка грамадзкага аб'яднаньня «Беларуская секцыя Міжнароднага таварыства правоў чалавека» Мікалая Калініна, праблемы цыганскай меншасьці ў Беларусі ўладамі ігнаруюцца. Паміж словам «цыган» і «злачынца» вельмі часта ставіцца знак роўнасьці. Такое стаўленьне вымушае знаходзіць магчымасьці, каб абараніць свае правы. Мікалай Калінін, юрыст па адукацыі, кажа, што іх арганізацыя аб'ядноўвае людзей, якія прыкладаюць усе намаганьні дзеля зьмяненьня сітуацыі.***

***— Чым адрозьніваюцца цыганы, якія жывуць у Беларусі, ад цыганскіх супольнасьцяў іншых краінаў?***

— У Беларусі жывуць тры асноўныя групы цыганоў. Гэта расейскія цыганы, яны называюць сябе руска-рома. Большасьць з іх жыве на тэрыторыі Віцебскай вобласьці, у Полацку і Віцебску. Абшчына там налічвае каля 3 тысячаў чалавек. Яны прыйшлі на тэрыторыю Беларусі з паўночнай Расіі. Я сам прадстаўляю гэтую групу. Мае сваякі жывуць у Пскове і Санкт-Пецярбургу. Гэтае перасяленьне адбылося пасьля вайны.

Другая этнічная група — польска-прыбалтыйскія цыганы. Яны жывуць у Менску, называюць сябе халадыт-рома. Яны маюць сваякоў у Польшчы, Прыбалтыцы, Чэхіі.

Трэцяя этнічная група – гэта ўкраінска-малдаўскія цыганы: сэрвы. Яны жывуць на тэрыторыі Гомельскай і Магілёўскай вобласьці.

Трэба адзначыць, што гэтыя этнічныя групы настолькі розныя, што паміж імі нават шлюбаў не бывае. Яны маюць зусім розную культуру. Руска-рома па менталітэце бліжэйшыя да рускага народу. Расейскія цыганы маюць суровы нораў, яны больш ваяўнічыя, калі так можна сказаць. Цыганы, якія жывуць у Менску, прыйшлі з Польшчы. Гэта даволі багатыя людзі. У Менску, дарэчы, самыя багатыя цыганы, якія па матэрыяльным дабрабыце могуць параўнацца толькі з маскоўскімі. Што тычыцца сэрваў – яны вялікія аматары музыкі і сьпеваў, як і ўся малдаўска-украінская этнічная група. У мове, на якой размаўляюць гэтыя групы, вялікай розьніцы няма.

***— Ці існуюць нейкія ўнутраныя правілы ў гэтых групах?***

— Гэтыя этнічныя супольнасьці вельмі закрытыя. Асаблівая закрытасьць існуе для нацыянальнай большасьці. Яе можна назваць надзвычайнай. Гэта мэтазгодна, бо калі б было па-іншаму, цыганы даўно зьніклі б як народ. Асіміляцыя і інтэграцыя ў грамадзтва цыганам на карысьць ня пойдзе.

Міжнацыянальныя шлюбы існуюць, аднак яны ніколі не віталіся. У цыганскай абшчыны адразу ўзьнікае пытаньне, да якой нацыянальнасьці будуць належаць дзеці ў такой сям'і і які спосаб жыцьця абярэ малады чалавек, што ажаніўся з нецыганкай. У гэтым сэнсе адбываецца непрыняцьце самога факту міжэтнічнага шлюбу. Але такія выпадкі ёсьць, і гэта даволі моцныя сем'і.

Існуе вельмі цікавы момант. Напалову цыганом быць нельга. Можна быць напалову ўкраінцам, напалову рускім. А чачэнцам ці цыганом напалову быць нельга. Такая сьпецыфіка. Некаторыя сыходзяць з абшчыны, жывуць сярод беларусаў, але не перастаюць быць цыганамі.

***— Існуе даволі шмат стэрэатыпаў пра цыганоў. Напрыклад, адзін з іх — "цыганы-качэўнікі". Ці праўда, што людзі гэтай нацыянальнасьці не затрымліваюцца доўга на адным месцы?***

— Цыганоў-качэўнікаў, якія пераязджаюць з месца на месца, засталася толькі невялікая група. Яны жывуць у Закарпацьці, ва Украіне і на прылеглых тэрыторыях Польшчы, Венгрыі, Румыніі. Гэтыя цыганы сапраўды не жывуць стала на адным месцы, і, што самае цікавае, пры гэтым цудоўна сябе адчуваюць. Сярод цыганоў, якія аселі на Беларусі, качэўнікаў няма. Адзін час сюды была вельмі актыўная іміграцыя прадстаўнікоў таджыкскай цыганскай дыяспары. Яны называюць сябе "люлі" і размаўляюць на фарсі (мова Ірану). Сваю мову страцілі. Беларусь не была для іх канчатковым пунктам. Наколькі я ведаю, зараз яны аселі недзе ў Заходняй Еўропе, здаецца, у Скандынавіі.

***— Чым цыганы адрозьніваюцца ад іншых нацыянальных меншасьцяў?***

— Цыганы бліжэй да мусульманскіх народаў. Асноўнай прыкметай гэтага зьяўляецца шанаваньне старэйшых. У доме для састарэлых вы ніколі ня знойдзеце старога цыгана. Да таго ж, у нас вельмі сьпецыфічныя шлюбна-сямейная стасункі. Яны практычна ідэнтычныя тым, якія прад'яўляе Каран для мусульманаў. Гэта асаблівы статус мужчыны ў стасунках паміж мужчынам і жанчынай у сям'і. Шлюбна-сямейны Кодэкс, які існуе ў Рэспубліцы Беларусь, для цыганоў увогуле непрымальны. Мы маем зусім іншы ўклад. Напрыклад, тое, што называецца рэгістрацыяй шлюбу, ці "росьпіс", для нас ня мае ніякага значэньня...

***— Якую грамадзкую арганізацыю вы прадстаўляеце?***

— Я прадстаўляю беларускую секцыю "Міжнароднага таварыства правоў чалавека". Нашая арганізацыя займаецца правамі нацыянальных меньшасьцяў. Само таварыства было створанае ў 1996 годзе, а беларуская філія адчынілася ў 1999 годзе. Мы працуем ня вельмі даўно, але мы адзіная арганізацыя, якая такія пытаньні ўздымае.

У нас працуюць валанцёры. Як такога фінансаваньня нашай дзейнасьці няма. Мы працуем за ідэю. Да нас зьвяртаюцца прадстаўнікі нашай нацыянальнасьці, калі яны сутыкаюцца з парушэньнямі законаў і дыскрымінацыяй па нацыянальнай прыкмеце. Мы спрабуем дапамагчы. У асноўным патрабуецца юрыдычная дапамога альбо юрыдычнае суправаджэньне нейкага выпадку ці сітуацыі.

У нашай арганізацыі аб'яднаныя этнічныя цыганы, якія маюць юрыдычную адукацыю. На жаль, іх няшмат, але мы здолелі аб'яднацца. Праца ідзе. Мы маем рэгіянальныя прадстаўніцтвы. Найбольш актыўна працуем у Віцебскай вобласьці.

***— Ці ёсьць нейкая сусьветная цыганская арганізацыя, якая аб'ядноўвае прадстаўнікоў вашага народу з розных краінаў?***

— Існуе Міжнародны Саюз цыганоў. Ачольвае яго грамадзянін Чэхіі, але гэтая арганізацыя, на жаль, існуе больш на паперы. Ніякай рэальнай карысьці і дзеяньняў ад яе няма. Тым ня менш, гэты Саюз аб'ядноўвае практычна ўсе цыганскія абшчыны, за выключэньнем нямецкіх цыганоў. Найбольш эфектыўна па цыганскіх праблемах працуе, як гэта ні дзіўна, Еўрапейская Камісія.

***— Якія праблемы для прадстаўнікоў вашай нацыянальнасьці ў Беларусі зараз стаяць найбольш востра?***

— Дыскрымінацыя цыганоў ёсьць усюды, не выключэньне і Беларусь. Шмат у якіх краінах цыганы ня могуць знайсьці працу. У Фінляндыі, напрыклад, штогод цыганскія грамадзкія арганізацыі прад'яўляюць 190 зыскаў аб дыскрымінацыі.

У Беларусі прыкладна такая ж сітуацыя. Дастаткова назваць адну толькі лічбу: 93% цыганоў у Беларусі ня маюць працы. Гэтую лічбу ў мінулым годзе прывёў Камітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў. Гэта значыць, што цэлы народ беспрацоўны... Для прыкладу, у Германіі гэтая лічба складае толькі 15%. Там існуе дзяржаўная праграма ліквідацыі непісьменнасьці і беспрацоўя сярод цыганоў.

На бытавым узроўні такой дыскры-

мінацыі няма. Беларусы вельмі талентныя. З гэтага пункту погляду цыганы тут сябе вельмі камфортна адчуваюць. Але нават маючы адукацыю і рэкамендацыі, практычна немагчыма атрымаць працу. Я сам на сабе гэта адчуў. Я юрыст, і мне адмаўляюць выключна па нацыянальнай прыкмеце. Цыганам цяжка паступіць і ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

***— Колькі чалавек налічвае цыганская абшчына ў Беларусі?***

— Зараз цяжка сказаць, бо колькасьць вельмі сур'ёзна вагаецца. Некалькі гадоў таму гэтая лічба даходзіла да 65 тысячаў...

***— Якія персьпектывы, мэты вы маглі б назваць для вашай арганізацыі і для ўсёй нацыянальнай групы?***

— Пра цыганоў вядома вельмі мала, а калі і ведаюць, то збольшага негатыўную інфармацыю. Гэта жыве ў сьвядомасьці простых людзей. Трэба працаваць для таго, каб разьбіць гэтыя стэрэатыпы. Самае негатыўнае – гэта калі паміж словам "цыган" і "правапарушальнік" ставяць знак роўнасьці. На жаль, менавіта ў такім сьвятле нас выстаўляюць афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі і так да нас ставяцца прадстаўнікі органаў улады.

Ёсьць планы стварыць цыганскую школу, не альтэрнатыўную асноўнаму навучаньню, а як дадатак да яго. У чэрвені з гэтай прапановай мы плануем зьвярнуцца ў Міністэрства адукацыі. Гэта трэба для таго, каб была магчымасьць выкладаць і вывучаць нацыянальную мову.

У дадзены момант мы працуем у рамках праекту вывучэньня правоў чалавека адносна цыганоў. Плануем правесьці маніторынг. Таксама мы аказваем бясплатную юрыдычную дапамогу людзям цыганскай нацыянальнасьці ў Беларусі, якія сутыкнуліся з парушэньнямі правоў чалавека. На дадзены момант у нашых сілах ахапіць толькі невялікую колькасьць людзей.

***— Ці зьвяртаюцца да вас людзі з такімі праблемамі?***

— Так, мы ўжо атрымалі нават нейкую папулярнасьць. Вельмі шмат людзей да нас зьвяртаецца з Віцебскай вобласьці, у прыватнасьці з Полацку. Людзі сутыкаюцца з неабгрунтаванай адмовай у прыёме на працу. Гэтая праблема вельмі істотная. Другое – гэта сваволства супрацоўнікаў міліцыі ў адносінах да цыганоў.

Сьледчыя мерапрыемствы праводзяцца з найгрубейшымі парушэньнямі ўсіх правоў. Напрыклад, калі ёсьць дазвол на вобыск толькі ў адным доме, абшукваецца ледзь не паўвуліцы, і выключна цыганскія хаты. Даводзіцца сутыкацца і з так званымі "судовымі памылкамі", якія былі і раней адносна цыганоў. Працуе толькі адзін прынцып – калі ты цыган, значыць, хоць у нечым ты вінаваты.

Людзі безабаронныя, шукаюць падтрымкі. Ніводзін адвакат ня стане пісаць скаргу сьледчаму і ўскладняць з ім свае стасункі з-за цыганоў. Нашыя звароты ігнаруюць. Але ў нас ёсьць адна перамога. Нашымі намаганьнямі была вынесеная строгая вымова аднаму высокаму чыноўніку ў Віцебскай вобласьці.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ.**

# Суду "цяжка вызначыць, дзе пачынаецца і дзе канчаецца асабістае жыцьцё"

6 траўня ў судзе Першамайскага раёну Менску распачаліся слуханьні па зыску Тацяны Працькі і яе мужа Дзьмітрыя Козыра да Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі і тэлежурналіста Юрыя Пракопава аб кампенсацыі маральных стратаў. Зыскоўцы патрабуюць з адказьнікаў выплаціць ім па 35 млн. рублёў за тое, што тыя парушылі таямніцу іх прыватнага жыцьця


Тацяна Працька.

Падставай дзеля зыску стаў сюжэт у тэлепраграме «В центре внимания», прадэманстраваны па Першым нацыянальным тэлеканале ўвечары 29 лютага і паўтораны раніцай 1 сакавіка г.г. У матэрыяле, аўтарам якога выступаў Юры Пракопаў, вялася гаворка пра прыбыткі і маёмасьць некаторых прадстаўнікоў беларускіх палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў — у тым ліку кіраўніцы Беларускага Хельсінкскага камітэту Тацяны Працькі і яе мужа, кіраўніка фермерскай гаспадаркі «Забалацьце» Смалявіцкага раёну Дзьмітрыя Козыра. У прыватнасьці, у сюжэце былі прадэманстраваны дом і аўтамабілі, якія нібыта належаць гэтай сям'і, а ў аўтарскім тэксьце названая буйная сума грошай, нібыта эквівалентная месячнаму заробку старшыні БХК.

Зыскоўцы лічаць, што тым самым НДТРК і Юры Пракопаў парушылі Канстытуцыю РБ і Інструкцыю аб рэжыме доступу да дакументаў, якія ўтрымліваюць таямніцу прыватнага жыцьця грамадзянаў (дакумент зацьверджаны Камітэтам па архівах і справаводстве 3 ліпеня 1996 г.) «Да тых зьвестак, якія маюць грыф «таямніца асабістага жыцьця», допуск абмежаваны, — патлумачыў прэс-службе ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» прадстаўнік Тацяны Працькі Гары Паганяйла. — Іх можна атрымаць, толькі падаўшы запыт у адпаведныя органы: суд, пракуратуру, органы расьсьледаваньня. Іншым грамадзянам гэтакая інфармацыя не выдаецца, бо артыкулы 28, 29 Канстытуцыі гарантуюць таямніцу асабістага жыцьця. Зьвесткі, прадэманстраваныя па БТ, якраз належаць да гэтай катэгорыі».

6 траўня ў судзе зыскоўцы зьняпраўдзілі большасьць агучаных у сюжэце фактаў. Адказьнік ня змог прадаставіць доказаў праўдзівасьці распаўсюджанай ім інфармацыі і адмовіўся паведаміць крыніцу, якая дала яму зьвесткі аб прыбытках спн. Працькі. Акрамя гэтага, высьветлілася, што здымачная група знаходзілася на прыватнай тэрыторыі бяз ведама і без дазволу гаспадара; у якасьці «ілюстрацыі» да сваіх словаў пра маёмасьць Т. Працькі і Дз. Козыра Ю. Пракопаў зьняў чужую машыну.

Тым ня менш, тэлежурналіст упэўнены, што ў ягоным сюжэце «датычна зыскоўцаў інфармацыя была нейтральнай». Прадстаўнік НДТРК Андрэй Іваноў лічыць, што заявы зыскоўцаў пра маральныя пакуты «беспадстаўныя». «Цяжка вызначыць, дзе пачынаецца і дзе сканчаецца асабістае жыцьцё», — кажа сп. Іваноў. Разам з тым ён прызнаўся, што «не чытаў» Інструкцыі Камітэту па архівах і справаводстве.

Пераглядзеўшы сюжэт і выслухаўшы абодва бакі, судзьдзя Ананіч вырашыла перанесьці слуханьні на 5 чэрвеня. Судзьдзя таксама прапанавала зыскоўцам добраахвотна прадаставіць зьвесткі аб сваіх прыбытках і маёмасьці.

**Прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў».**

## Штраф за ўдзел у "Чарнобыльскім шляху"

**3 траўня лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька быў выкліканы ў РУУС Савецкага раёну г. Менску для допыту ў якасьці правапарушальніка. Выклік зьвязаны з падзеямі 26 красавіка, калі ў сталіцы Беларусі праходзіў Чарнобыльскі шлях. А. Лябедзька не зьяўляўся заяўляльнікам акцыі, ня ўдзельнічаў у шэсьці, хаця прысутнічаў на плошчы Якуба Коласа. У РУУС А. Лябедзька зьявіўся, але падчас складаньня пратаколу аб правапарушэньні (арт. 167.1 КаАП РБ) высьветлілася, што зьмест рапартаў, складзеных супрацоўнікамі міліцыі, не супадае з відэаздымкамі акцыі. Такім чынам, пратакол аб правапарушэньні А. Лябедзькі ня быў складзены, а сам ён быў адпушчаны.**

**12 траўня суд Савецкага раёну аштрафаваў Старшыню Аб'яднанай Грамадзянскай партыі (АГП) Анатоля Лябедзьку на 100 базавых велічыняў (1 млн. 900 тыс. беларускіх рублёў) за ўдзел 26 красавіка ў акцыі "Чарнобыльскі шлях", прысьвечанай чарговай гадавіне аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

 



# Аўтара верша так і не знайшлі...

## 11 траўня сьледчыя КДБ правялі ў Гародні ператрусы ў трох дэмакратычных арганізацыях

Сьледчыя КДБ шукалі, дзе магла быць надрукаваная першатравеньская ўлётка з вершам, у якім КДБ убачыў абразу на адрас прэзідэнта Лукашэнкі.

А 15-й гадзіне каманда гэбістаў завітала на вуліцу Карла Маркса, 11, дзе месьцяцца грамадзкія арганізацыі — ад БНФ да ТБМ. У пакоі ТБМ робіцца газета "День", а яе галоўны рэдактар Мікола Маркевіч адначасова ўзначальвае і філію Таварыства беларускай мовы.

Ператрус доўжыўся чатыры гадзіны. У 19.15 выйшлі спачатку міліцыянты, потым супрацоўнікі КДБ у цывільным вынесьлі ўсе чатыры сістэмныя блокі рэдакцыі "Дня".

Паназіраць сабралася публіка, усё гэта фатаграфавалі нямецкія журналісты, якія апынуліся ў Гародні. А аператар КДБ запісваў на відэастужку ўсіх прысутных.

Калі ператрусы зьвязаныя з крымінальнай справай па факце абразы прэзідэнта Лукашэнкі, паводле ўлёткі, то якое да гэтага маглі мець дачыненьне Таварыства беларускай мовы і газета "День"? Сьледчы КДБ Фядулаў патлумачыў Міколу Маркевічу, што нібыта сябры ТБМ кантактавалі з Валерыем Леванеўскім — кіраўніком страйкаму прадпрымальнікаў, якога затрымалі і пасадзілі на 15 сутак якраз за распаўсюд гэтых улётак.

З аднаго боку на гэтых улётках надрукавана фота самога Леванеўскага і заклік прыйсьці 1 траўня на мітынг пратэсту, з другога — вершык, які ў КДБ прачыталі і знайшлі нібыта абразу прэзідэнта Лукашэнкі.

У вершы адзін раз згадваецца слова "прэзідэнт". Сьледчы лічыць, што сябры ТБМ маглі дапамагчы Леванеўскаму памножыць улётку.

Ператрусы адбыліся таксама ў Таварыстве беларускай школы (ТБШ) і ў Фондзе Льва Сапегі, якія знаходзяцца ў іншых месцах. У ТБШ нічога не забралі, а вось Фонд Сапегі мае страты. Карэспандэнт Радыё Свабода размаўляў пасьля ператрусу з кіраўніком філіі Фонду Уладзімірам Хільмановічам. Ён сказаў, што КДБ канфіскавала ў іх кампутарную тэхніку і адну кніжку — пад назвай "Зямля сьвятога Лукі" гарадзенскага паэта Алеся Чобата, якая выдадзеная ў перакладзе на польскую мову.

* * *

Гэтаму папярэднічалі падзеі, што адбыліся ў Гародні 7 траўня. Каля 14 гадзінаў дня ў трохпакаёвую кватэру Леванеўскіх на вуліцы Ліможа хацелі трапіць людзі, якія сказалі, што яны з КДБ. Іх не пусьцілі. У хаце знаходзіліся 12-гадовы Антон, 17-гадовая Кацярына — дзеці Леванеўскага і ягоная цешча Галіна. Праз некаторы час прыбылі амапаўцы — людзі ў чорных і белых шапках-масках. Яны ўзламалі падвойныя дзьверы і ўвайшлі ў кватэру. Адразу пачаўся ператрус. Дома засталіся цешча і дачка Валерыя Леванеўскага — сына Антона адаслалі на вуліцу разам з сабакам-ратвейлерам, якога трымае сям'я.

Ператрус цягнуўся шэсьць гадзінаў і закончыўся каля 21 гадзіны.

КДБ прымушала даваць паказаньні супраць свайго бацькі 17-гадовую Кацярыну Леванеўскую. Пасьля заканчэньня ператрусу яе забралі ў абласную ўправу КДБ. У кватэры была канфіскаваная ўся кампутарная тэхніка.

Старэйшы сын, Зьміцер Леванеўскі, якому 20 гадоў, таксама быў дастаўлены ў КДБ.

Каля 15 гадзінаў міліцыянты затрымалі Аляксандра Васільева — паплечніка Валерыя Леванеўскага, і на ягонай кватэры таксама пачалі ператрус. А 17-й гадзіне ў яго канфіскавалі кампутары сына і дачкі, некаторыя дакументы. Ён паведаміў, што ператрус робіцца на падставе распачатай крымінальнай справы аб распаўсюдзе друкаванай прадукцыі, у якой абражаюцца гонар і годнасьць прэзідэнта Лукашэнкі.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».**

# Аксану Новікаву зноў абвінавачваюць у паклёпе

Пастанова пра прыцягненьне Аксаны Новікавай ў якасьці абвінавачанай вынесеная Старшым сьледчым Мінскай транспартнай пракуратуры.

6 красавіка Менская транспартная пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу супраць Аксаны Новікавай у сувязі з тым, што 5 красавіка ў 12 гадзінаў, знаходзячыся ў тунелі №2 станцыі Менск-Пасажырскі, яна раздавала ўлёткі, у якіх сьцьвярджалася, што Аляксандр Лукашэнка і кіраўнікі сілавых ведамстваў маюць дачыненьне да выкраданьня людзей ды іншых парушэньняў закону.

8 траўня Аксана Новікава была выкліканая ў Менскую траспартную пракуратуру дзеля знаёмства з матэрыяламі справы ў якасьці абвінавачанай. 11 траўня з матэрыяламі справы знаёміцца адвакат Аксаны Новікавай.

Нагадаем, што ў лютым 2004 году Камітэт выкананьня пакараньняў амніставаў Аксану Новікаву, якую ў красавіку мінулага году за абразу прэзідэнта пакаралі двума гадамі пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай на два гады.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».**

# Аштрафавалі праваабаронцу

7 траўня Наваполацкага праваабаронцу Зьміцера Салаўёва аштрафавалі на 10 базавых велічыняў у інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па г.Наваполацку.

5 траўня па месцы прапіскі Зьміцера Салаўёва прыйшла тэлеграма, у якой паведамлялася, што ён 7 траўня абавязаны зьявіцца ў інспекцыю Міністэрства па падатках і зборах па г.Наваполацку. За атрыманьне тэлеграмы прымусілі распісацца маці Зьміцера.

Рашэньне пра штраф было вынесенае на падставе таго, што Зьміцер Салаўёў не пусьціў прадстаўнікоў падатковай інспекцыі ў свой офіс. У пратаколе было сказана наступнае: "09.04.04 Салаўёў не дазволіў правесьці кантрольныя мерапрыемствы і выявіць, ці ажыцьцяўляецца камерцыйная, прадпрымальніцкая) дзейнасьць у памяшканьні, якое сам уладальнік называе "Офіс Зьміцера Салаўёва". Адказнасьць за дадзенае правапарушэньне прадугледжаная ў памеры ад 10 да 50 базавых велічыняў".

Падаткавікі намерваліся правесьці праверку "дзейнасьці, зьвязанай з прыёмам наяўных грашовых сродкаў ад пакупнікоў (кліентаў), з вытворчасьцю прадукцыі, выкананьня работ, аказаньнем паслугаў" і г.д. Зьміцер Салаўёў адмовіўся ўпусьціць у памяшканьне супрацоўнікаў падатковай інспекцыі, матывуючы тым, што гаспадарчай дзейнасьцю ён не займаецца і ніякіх аперацыяў з наяўнымі і безнаяўнымі грашыма ў дадзеным памяшканьні ня робіць.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».**

# Вярбоўка не ўдалася

Актывіст руху «Зубр» Міхаіл Н. быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ 3 траўня ў Асіповічах. Хлопец расклейваў улёткі з лагатыпам руху і нумарам кантактнага тэлефону ў раёне школы №2, у цэнтры гораду.

Супрацоўнікі міліцыі даставілі Міхаіла ў вайсковую частку, на тэрыторыі якой знаходзіцца мясцовае ўпраўленьне Камітэту дзяржбясьпекі. Там з ім размаўляў чалавек, які прадставіўся Ігарам Анатольевічам. Ён цікавіўся колькасьцю ўдзельнікаў «Зубра» ў Асіповічах, дзейнасьцю руху па краіне, крыніцамі фінансаваньня.

Пасьля таго, як малады чалавек сказаў, што ён не валодае гэтай інфармацыяй, супрацоўнік КДБ прапанаваў яму заводзіць як мага больш знаёмстваў з актывістамі руху і перадаваць інфармацыю яму. На разьвітаньне "кадэбэшнік" пакінуў хлопцу нумар свайго працоўнага і мабільнага тэлефонаў і прапанаваў званіць «пры неабходнасьці». Пасьля гэтага ў Міхаіла ўзялі пісьмовыя тлумачэньні і адпусьцілі, пратрымаўшы паўтары гадзіны.

 

# Пяць гадоў памяці...

(Пачатак на стар. 1)

Акцыі пад назовам "Мы памятаем" прайшлі і ў іншых гарадах Беларусі. У Наваполацку падчас акцыі, прысьвечанай пятай гадавіне зьнікненьня экс-міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі было затрымана 9 чалавек. У адносінах 8 з іх былі складзеныя пратаколы па арт167.-1. ч.1 – удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве.

Пікетаваньне адбывалася ў цэнтры гораду на плошчы Будаўнікоў. Удзельнікі акцыі трымалі ў руках партрэты зьніклых бяз вестак.

Сярод затрыманых:
1. ***Зьміцер Салаўёў***
2. ***Ігар Сухарукаў***
3. ***Сяргей Забродзкі***
4. ***Валеры Шаўчэнка***
5. ***Вінцэсь Мудроў***
6. ***Аляксандр Цярэнцьеў***
7. ***Аляксей Трубкін***
8. ***Ігар Макану***
9. ***Ігар Валяеў***

10 траўня Наваполацкі гарадзкі суд перанёс на 11 траўня судовы разгляд справаў удзельнікаў акцыі "Мы памятаем". З Менску дзеля абароны затрыманых прыехаў адвакат, але старшыня Наваполацкага гарадзкога суда перанёс разгляд адміністратыўных справаў на 11 траўня, 9.00 быццам бы зазза таго, што не зьявіліся сьведкі-міцыянты, якія ўчынялі затрыманьне.

***11 траўня*** ў 9.00 у Наваполацкім гарадзкім судзе пачаліся суды над удзельнікамі акцыі "Мы памятаем". Першай суд разгледзеў справу Аляксандра Цярэнцьева. Судзьдзя апраўдаў А. Цярэнцьева ў сувязі з адсутнасьцю ў яго дзеяньнях складу правапарушэньня. Прадстаўніком А. Цярэнцьева ў працэсе быў юрыст Праваабарончага цэнтру "Вясна" Уладзімір Лабковіч.

Адміністратыўная справа Вінцэся Мудрова спыненая таксама ў сувязі з тым, што ў яго дзеяньнях суд ня ўбачыў складу правапарушэньня.

Па той жа прычыне суд апраўдаў яшчэ трох удзельнікаў акцыі "Мы памятаем" у Наваполацку — В.Шаўчэнку, З. Салаўёва, І.Сухарукава.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна».**



Міхаіл Марыніч

# Вінаватым сябе не прызнае

Міхаілу Марынічу прад'яўленае абвінавачаньне ў незаконным захоўваньні зброі. Гэта адзінае, у чым вырашылі абвінаваціць сьледчыя КДБ былога міністра і амбасадара Міхаіла Марыніча пасьля дзесяці дзён утрыманьня яго ў сьледчым ізалятары КДБ, — паведамляе Радыё Свабода. Раней заяўлялі, што Міхаіл Марыніч падазраецца ў захоўваньні сакрэтных дакументаў і збыце фальшывых даляраў.

Сьледзтва супраць Міхаіла Марыніча працягваюць сьледчыя КДБ, ён па-ранейшаму ўтрымліваецца ў ізалятары КДБ "амерыканка". Паводле словаў адваката Веры Страмкоўскай, якая абараняе Міхаіла Марыніча, ён не прызнае сябе вінаватым і тлумачыць перасьлед палітычнымі прычынамі. Міхаіл Марыніч падаў скаргу ў пракуратуру Беларусі на дзеяньні сьледчых КДБ.

# "Мы змагаемся за тое, каб займацца нармальнай палітыкай"

(Пачатак на стар. 3)

адрасу. Ніводзін прадпрымальнік у Менску, а з некаторымі з іх я маю добрыя стасункі, ніколі не прадастаўіць нам памяшканьне. І я разумею гэтых людзей, бо на наступны дзень яго структуру прыкрыюць. Мы чатыры разы зьвярталіся ў адміністрацыю прэзідэнта з просьбай арэндаваць памяшканьне і кожны раз атрымлівалі адмову. Да недзяржаўных структураў мы зьвярнуцца ня можам. Купіць сабе вялікае памяшканьне мы ня ў стане. Я баюся, што дзейнічаць у адпаведнасьці з Канстытуцыяй пры вылучэньні кандыдатаў будзе даволі цяжка. Таму я не хацеў бы зараз асьвятляць нашыя тэхналогіі.

***— Які ваш прагноз на фармаваньне выбарчых камісіяў і наступныя этапы выбарчай кампаніі?***

— Зьменаў ніякіх не адбываецца. Настрой у грамадзтве такі, што калі галасы будуць падлічаныя справядліва, то прыдзе поўны канец гэтай уладзе. Гэта відавочна. Кандыдаты ад улады будуць у меншасьці. Мы па-вінны актыўна працаваць у тых умовах, у якіх знаходзімся.

Зараз у Палаце няма ніводнага чалавека, які абраны дэмакратычным шляхам. І ў Еўропе гэта ўжо зразумелі. Як туды пёрлі раней ўсё гэтыя абрамавы, навасяды... Усе яны аднолькавыя. Цяпер, калі яны змагаюцца за дэмакратыю, я лічу гэта крывадушшам. Трэба ўсё называць сваімі імёнамі. Я пераконваюся, што гэта тычыцца і "Рэспублікі", у якую ўваходзіць тры з паловай чалавекі. Напачатку яны стваралі даволі добрае ўражаньне. Калі дайшло да канкрэтыкі стала відавочна, што ўзровень палітычнай адукацыі ў іх не высокі.

Па іх паводзінах я бачу, што заняткі палітыкай – гэта задавальненьне ўласных амбіцыяў.

***— Вы сказалі пра мажлівую фальсіфікацыю вынікаў выбараў. Ці ёсьць, на ваш погляд, нейкія грамадзкія інстытуты, якія б дапамаглі не дапусьціць фільсіфікацыяў на выбарах?***

— Такія працэдуры і такія магчымасьці ёсьць. Але яны патрабуюць ад людзей самаахвярнасьці. Многія ў якасьці ахвяры павінны прынесьці сваю сям'ю, застацца без працы. Гэта праблема складаная. Інстынкт самазахаваньня ў нашых умовах спрацоўвае.

***— Як вы думаеце, ў якім міжнародным кантэксьце будуць адбывацца парламенцкія выбары ў Беларусі?***

— Беларусь увогуле вельмі слаба ўплывае на міжнародныя структуры. Яны навучыліся пазьбягаць узаемадзеяньняў з Беларусьсю. Які інтарэс да Беларусі з боку Еўрасаюзу? Што ў гэтым гіганцкім утварэньні залежыць ад нашай краіны? Шлях на Расію? Абыходзяць праз Літву і Украіну. І гэта нашмат таньней, чым змагацца тут супраць кагосьці і чагосьці.

Больш таго, на гэты момант у міжнароднай супольнасьці па Беларусі няма адзі-най выпрацаванай палітыкі.

***— Станіслаў Станіслававіч, вы самі плануеце балатавацца ў парламент?***

— Мы гэтае пытаньне будзем вырашаць на зьезьдзе партыі. Я ўваходжу ў адзіны сьпіс і маю намер балатавацца. Але я не выключаю, што супраць мяне асабіста будзе ўчынена шмат перашкодаў фармальных і нефармальных. Мы параімся, і, магчыма, замест мяне пойдзе нехта з маладых і энергічных нашых сяброў. Акрамя таго, трэба мець на ўвазе, што я праводжу недзе 10-15% часу ў замежжы. Пакуль што маё рашэньне — ісьці. Зьезд партыі, на якім будуць абмяркоўвацца ўсе гэтыя пытаньні, адбудзецца адразу, як будзе прынятае рашэньне аб правядзеньні выбараў і прызначаная канкрэтная дата.

**Гутарыла Ядвіга МАЦКЕВІЧ.**

# Яшчэ адзін манапаліст умацоўваецца

## Дзяржава імкнецца цэнтралізаваць падпіску на друкаваныя выданьні

Пачалася падпісная кампанія на другое паўгодзьдзе. Аднак калі дагэтуль можна было падпісацца ня толькі на пошце, а і ў незалежных кампаніях, то цяпер дзяржава манапалізуе і гэты рынак.

Ад 1 траўня кожны, хто зьбіраецца зарабляць на падпісцы, мусіць мець адмысловую ліцэнзію. Аднак час ідзе, а Міністэрства сувязі так нікому і не дазволіла стварыць канкурэнцыю дзяржаўнаму манапалісту ў гэтай галіне — прадпрыемству "Белпошта".

У апошнія дні мінулага году быў прыняты закон "Аб паштовай сувязі", у якім упершыню зрабілі неабходным ліцэнзаваньне паслугаў паштовай сувязі, а менавіта — правядзеньня падпіскі на перыядычныя выданьні і дастаўкі іх чытачам. Але толькі ў канцы красавіка недзяржаўныя арганізацыі, якія дагэтуль займаліся падпіскай, атрымалі лісты з патрабаваньнямі "ўдакладніць намеры".

Найперш Міністэрства сувязі запатрабавала ўзгадніць зьмест падпіснога каталогу, асобна пералічыць замежныя выданьні, якія плануецца распаўсюджваць на тэрыторыі Беларусі, а таксама распавесьці, якім чынам будзе ажыцьцяўляцца дастаўка газетаў ды часопісаў у сельскую мясцовасьць.

Усіх папярэдзілі, што ў другім паўгодзьдзі падпісваць чытачоў на друкаваныя выданьні можна толькі ў тым выпадку, калі маецца адпаведная ліцэнзія. Дагэтуль кожная рэдакцыя самастойна вырашала праблему распаўсюду.

Беларуская асацыяцыя журналістаў з гэтай нагоды ўжо накіравала ліст у Міністэрства сувязі. Журналісцкая арганізацыя спасылалася на закон "Аб друку", дзе наўпрост напісана: кожная рэдакцыя мае права распаўсюджваць сваё выданьне самастойна альбо паводле дамоваў з іншымі арганізацыямі — як дзяржаўнай формы ўласнасьці, так і прыватнай. Адказ быў катэгарычны — ад гэтага часу на ўсю дзейнасьць мусіць быць дазвол.

Як стала вядома, паседжаньне адмысловай камісіі, якая будзе вырашаць лёс недзяржаўных фірмаў, што займаюцца падпіскай, прызначанае на сярэдзіну траўня.

Варта нагадаць яшчэ некаторыя аспекты эканамічнага ціску на недзяржаўную прэсу. Выдаткі "Белпошты" на дастаўку дзяржаўных выданьняў пакрываюцца з бюджэту, а незалежныя выданьні плацяць за гэтую паслугу напоўніцу.

Кошты дзяржаўных друкарняў для незалежных выданьняў вышэйшыя, чым для дзяржаўных. Акрамя таго, нягледзячы на наяўнасьць недзяржаўных кампаніяўраспаўсюднікаў, магчымасьць данесьці тое ці іншае выданьне да самых аддаленых і маленькіх населеных пунктаў краіны ёсьць толькі ў «Белпошты».

Апрача таго, неабходна ўзгадаць і неаднаразовыя выпадкі ўжываньня гэтак званага «адміністрацыйнага рэсурсу» пры правядзеньні падпіснай кампаніі, калі ўлады прымушаюць розныя ўстановы падпісвацца на дзяржаўную прэсу.

**Паводле Радыё Свабода.**

## Дарога ў нікуды...

Офіс АБСЕ ў Менску назваў «паклёпніцкім» дакументальны фільм «Дарога ў нікуды», які быў прадэманстраваны па Першым нацыянальным тэлеканале 11 траўня. Пра гэта гаворыцца ў адмысловым паведамленні, распаўсюджаным прэс-службай прадстаўніцтва 12-га траўня. Офіс АБСЕ заклікаў Нацыянальную дзяржаўную тэлерадыёкампанію прытрымлівацца стандартаў прафесійнай журналісцкай працы і прадаставіць героям праграмы магчымасьць выказацца ў адказ.

Кіраўнік офісу АБСЕ амбасадар Эбергард Хайкен назваў фільм «адкрытым паклёпам на адрас вядучых апазіцыйных палітыкаў». «Я лічу, што гэты фільм не адпавядае стандартам непрадузятай прэзентацыі матэрыялу і прынцыпам палітычнага плюралізму», – заявіў ён. «Офіс АБСЕ расцэньвае зьмест праграмы як відавочную спробу падарваць аўтарытэт палітычнай апазіцыі напярэдадні парламенцкіх выбараў», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы офісу.

У 40-хвілінным фільме расповяд пра цяперашніх лідэраў беларускай апазіцыі перамяжоўваўся фрагментамі кінахронікі пра дзейнасьць фашыстаў падчас другой сусьветнай вайны, — паведамляе прэс-служба БАЖ.

## Хто ж павінен выконваць патрабаваньні Канстытуцыі, як не міліцыя?..

### Заява Грамадзкага аб'яднаньня "Беларуская асацыяцыя журналістаў" у сувязі з перасьледам газеты "День"

11 траўня 2004 году ў Гародні супрацоўнікі КДБ забралі кампутарную тэхніку, на якой працавалі журналісты газеты "День", а таксама матэрыялы чарговага нумару газеты.

Гэтыя дзеяньні сталіся чарговым зьвяном у ланцугу рэпрэсіўных захадаў супраць незалежнага выданьня. Як вядома, яшчэ 7 красавіка супрацоўнікі міліцыі арыштавалі ўвесь наклад 11 нумару газеты "День". Разьбіральніцтва па гэтай справе працягваецца да сёньня. 4800 асобнікаў газеты па-ранейшаму знаходзяцца пад арыштам. Падставай для прэтэнзіяў да рэдактара Міколы Маркевіча стала апублікаваньне ў згаданым нумары газеты выказваньняў гарадзенскага прадпрымальніка Валерыя Леванеўскага, у чым міліцыя ўгледзела заклік да правядзеньня несанкцыянаваных масавых дзеяньняў.


Мікола МАРКЕВІЧ. Фота "ПнВ"

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" расцэньвае дзеяньні сілавых структураў у дачыненьні да рэдакцыі газеты "День" як акты палітычнай цэнзуры. Па сутнасьці, міліцыя і КДБ ператвараюцца ў органы палітычнага вышуку і барацьбы з іншадумствам.

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" патрабуе ад праваахоўных органаў зьняць арышт з накладу 11 нумару газеты "День", вярнуць забраныя ў часеператрусу абсталяваньне і матэрыялы, спыніць умяшальніцтва ў справы рэдакцыі. Мы заклікаем супрацоўнікаў сілавых структураў дакладна выконваць нормы Канстытуцыі краіны, абараняць правы і законныя інтарэсы грамадзтва, у шэрагу якіх адным з найважнейшых зьяўляецца права на свабоднае атрыманьне і распаўсюд інфармацыі.

*12 траўня 2004 г.*

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага цэнтру "Вясна".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.
Адрас рэдакцыі: 220012 Менск, а/с 20.
E-mail:viasna@spring96.org
www.spring96.org
У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ПЦ "Вясна"